наша
# СВАБОДА
№2 • 1 САКАВІКА 2000г. • СЕРАДА

КОШТ СВАБОДНЫ
•
Выдаецца з 25 лютага 2000 года
•
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
•
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
•
http://www.svaboda.com

АДЫСЕЯ БАБІЦКАГА



стар.5

ТЭНДЭНЦЫІ

## Лукашэнка заменіць паслоў?

**Паводле інфармаваных крыніцаў у Вашынгтоне, пасол РБ у ЗША Валерый Цэпкала ў гутарках з афіцыйнымі асобамі выказвае заклапочанасць сваім уласным лёсам, магчымасцю хуткага адклікання і рэпрэсіяў з боку Лукашэнкі.**

Як вядома, Лукашэнка крайне нервова адрэагаваў на нядаўні візіт у ЗША і сустрэчы з высокімі адказнымі асобамі спікера Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, абвінаваціў МЗС і асабіста Валянціна Цэпкалу ў бяздзейнасці. У бліжэйшы час у Кангрэсе ЗША пройдуць слуханні па Беларусі, у якіх будзе ўдзельнічаць Сямён Шарэцкі. У гэтай сувязі амбасада Беларусі ў ЗША атрымала загад зрабіць усё, каб нейтралізаваць негатыўныя наступствы слуханняў.

Крыніцы ў МЗС Беларусі пацвердзілі, што ў бліжэйшы час магчыма замена амбасадараў практычна ва ўсіх заходніх краінах. Па ўсім відаць, што як і ў савецкія часы, лічыцца, што Захад вельмі хутка разбэшчвае дыпламатаў. Адкліканне амбасадараў могуць паскорыць звесткі, якія маюцца ў адміністрацыі наконт таго, што некаторыя амбасадары і дыпламаты збіраюцца застацца на Захадзе. Не выключана, праўда, што такую інфармацыю распаўсюджваюць самі беларускія дыпламаты, каб у вачах сваіх заходніх калег выглядаць ліберaламі і тайнымі барацьбітамі з рэжымам. ■

# Старт дадзены

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Заяўка на правядзенне «Маршу Свабоды-2» была пададзеная ў панядзелак у Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт групаю з 64 чалавек. Гэта ў тры разы болей, чым было заяўшчыкаў на «Марш Свабоды-1» у кастрычніку мінулага года.**

Пазней на сядзібе БНФ акцыя была прэзентаваная журналістам. Асноўныя арганізатары: старшыня БНФ Вінцук Вячорка, намеснік старшыні АГП Анатоль Лябедзька і сябра аргкамітэта «Хартыі-97» Зміцер Бандарэнка распавялі, што, згодна з заяўкай, акцыя мусіць распачацца 15 сакавіка ў 18.00 на плошчы Якуба Коласа. Адтуль павінна пачацца шэсце па чатырох палосах праспекта (дзве мяркуецца пакінуць для руху грамадскага транспарту) Ф.Скарыны да плошчы Незалежнасці, дзе мусяць адбыцца мітынг і канцэрт беларускіх рок-гуртоў. Планаваемая колькасць удзельнікаў акцыі – да ста тысяч чалавек.

Лозунгі, пад якімі плануецца правесці мерапрыемства: «Канстытуцыя – галоўны закон краіны!» (15 сакавіка на дзяржаўным узроўні пазначаны як Дзень Канстытуцыі), «Даеш перамовы!», «Свабоду палітвязням» і інш.

Верагодна, што на акцыі будуць прысутнічаць парламентары Украіны, Расіі, ЗША, Польшчы, ФРГ ды іншых краінаў.

Цікава, што на пытанне аднаго з журналістаў «ці будзе на вашу думку дазволены «Марш Свабоды-2»?», вядучы прэс-канферэнцыі Вячаслаў Сіўчык адказаў: «вельмі верагодна, што так. Для гэтага ёсць усе перадумовы». А на пытанне «колькі на акцыю сапраўды збярэцца людзей?» Анатоль Лябедзька адказаў, што «чалавек будзе не менш, як трыццаць адна тысяча, а то і значна болей!» ■




## Шансы изменить власть

Статья Павла Данейко о силе и слабости существующего режима

стр.3

## Чалавек-жанчына

Развагі, прысвечаныя змаганню жанчыны за сацыяльную і псіхалагічную роўнасць з мужчынамі ў грамадстве

стар.6

## Купка чыноўнікаў зачышчае Мінск

Матэрыял Уладзіміра Дзянісава апавядае гісторыю зруйнавання помніка архітэктуры XVIII стагоддзя на пляцы Свабоды ў Мінску

стр.7



СВЕДЧАННЕ

## Прымеркаваны да Маршу

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Дзеля запалохвання моладзі перад маючым адбыцца Маршам Свабоды-2 улады могуць распачаць у Мінску паказальны працэс над чатырма ўдзельнікамі Маршу Свабоды 17 кастрычніка 1999 года. Крымінальныя справы студэнтаў Глеба Догіля, Германа Сушкевіча, прадпрымальніка Антона Лазарава і выпускніка вячэрняй школы Андрэя Валабуева перададзены ў Мінскі гарадскі суд. Ім інкрымінуецца артыкул 186.3 КК РБ ( арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяннях парушаючых грамадскі парадак). Хлопцам пагражае ад аднаго да пяці гадоў зняволення.

Такія праваабаронча арганізацыі, як «Вясна-96», «Хартыя-97» і Беларускі Хельсінкскі Камітэт ужо зараз заявілі пра аказанне ўсялякай магчымай юрыдычнай дапамогі і свой удзел у судовым працэсе. ■

## Тры віртуальныя мільёны

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Паводле абвінаваўчага заключэння, былы прэм'ер Міхаіл Чыгір нанёс дзяржаве стратаў больш як на 3 мільёны долараў**

Нагадаем, у Мінскім гарадскім судзе фармальна ўжо другі месяц ідзе працэс над экс-прэм'ерам Міхаілам Чыгіром. Аднак, з-за хваробы адваката ў самым пачатку працэс перапыніўся больш як на тры тыдні. І вось нарэшце ўчора слуханні аднавіліся. Суддзя Аляксандр Васілевіч пачаў зачытваць абвінаваўчае заключэнне, згодна з якім прэтэнзіі дзяржавы да былога старшыні ўрада можна ўмоўна падзяліць на шэсць частак. Яны тычацца як дзейнасці Чыгіра на пасадзе старшыні «Белаграпрамбанка», гэтак і падчас кіраўніцтва ўрадам. Паўсюль Чыгір, быццам бы, злоўжываў сваім становішчам ці вёў справы халатна. Паводле следства, першае сваё злачынства Чыгір зрабіў яшчэ ў лістападзе 1993 года, калі заключаў з чэшскай фірмай «Мостарес» дамову на будаўніцтва 23-павярховага будынка банка. Хутка чэхам было пераведзена авансам 140 тысяч долараў, але раптам беларусы высветлілі, што чэшская фірма не вартая даверу. Вярнуць у банк удалося толькі 100 тысяч «зялёных» — следства лічыць, што страты 40 тысяч на сумленні Чыгіра, які спрацаваў як старшыня банка дрэнна.

Яшчэ больш, прыкладна 2,8 мільёна долараў, дзяржава, быццам бы, страціла падчас спробаў «Белаграпрамбанка» пабудаваць новы будынак з дапамогай канадскай фірмы «Лоўрэнс авеню груп LTD» і шэрагу іншых арганізацыяў, у тым ліку беларускіх. Як сцвярджаюць следчыя, зноў М.Чыгір праявіў надбайнасць, калі даў згоду пералічыць канадцам у выглядзе авансу 1 мільён долараў, а таксама больш за 1,8 мільёна долараў за працу фірмам, якія рыхтавалі пляцоўку пад новы офіс банка. Гэта было ў 1984 годзе, а ўжо праз год, калі Чыгіра Лукашэнка павысіў да прэм'ера, высветлілася, што грошай на будоўлю не хапае, і яе паступова згарнулі. Але тады ніхто прэтэнзіяў Чыгіру не прад'яўляў. Яны ўзніклі, калі экс-прэм'ер праз чатыры гады пачаў актыўна займацца апазіцыйнай дзейнасцю.

Адзначым, усе іншыя абвінавачванні пабудаваны па такой жа трафарэтнай схеме. І тыя, дзе гаворка ідзе пра выдачу крэдытаў фірмам «МСТ», «Будбізнес» і «Белостез», (усяго па гэтых эпізодах Чыгір, быццам бы, нанёс стратаў прыкладна на 600 тысяч долараў). Падобны эпізод звязаны з выдачай ільготаў для фірмы «Піяск». Зноў Чыгір, быццам бы, быў няўважлівы і перавысіў службовыя паўнамоцтвы ў карысліўных мэтах. Стандартныя і доказы віны Чыгіра, якія фігуруюць у абвінаваўчым заключэнні. Там няма важкіх аргументаў, затое зноў і зноў фігуруюць высновы следчых, кшталту «не мог не ведаць» ці «добра разумеў, што... аднак».

Абарона Міхаіла Чыгіра лічыць, што гэтыя доказы следства будуць абвергнутыя падчас судовага разбіральніцтва. Яшчэ адзін паказальны момант слуханняў — на іх дагэтуль не прыйшлі прадстаўнікі арганізацыяў, якія, па версіі следства, пацярпелі страты ад дзейнасці Чыгіра. Гэта «Белаграпрамбанк» і мытны камітэт. Падсудны патрабуе, каб пасланцы гэтых арганізацыяў прысутнічалі ў судзе і «глядзелі яму прама ў вочы». ■

Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
880

## Чорны спіс

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Дзяржаўны дэпартамент ЗША падрыхтаваў справаздачу аб правах чалавека ў свеце. 38 старонак з гэтай справаздачы прысвечаныя парушэнням правоў чалавека ў Беларусі.

Як заявіў у панядзелак на прэзентацыі справаздачы амбасадар ЗША Джон Спекхард, гэтая справаздача не з'яўляецца палітычным дакументам. Правы чалавека прызнаныя ўсёй сусветнай супольнасцю – у тым ліку і Беларуссю. Аднак, па словах Д.Спекхарда, справаздача паказвае, што ўрад Беларусі мае сур'ёзныя праблемы з забеспячэннем нават мінімуму прававых нормаў, а таксама не мае палітычнай волі да выпраўлення сённяшняй сітуацыі. Улады дэманструюць пагарджэнне правамі і свабодамі грамадзянаў Беларусі.

Асноўныя правы чалавека – гэта свабода слова, свабода сходаў і аб'яднанняў, свабода ад нематываванага арышту і затрымання, свабода працоўных на стварэнне арганізацыяў, свабода ад пераследу ўладаў і іншыя. З усімі гэтымі правамі Беларусь мае праблемы.

Справаздача пачынаецца з палітычнай сістэмы краіны – і адразу ідзе: «Беларусь мае такую сістэму дзяржаўнага кіравання, пры якой амаль уся ўлада сканцэнтраваная ў руках прэзідэнта... Сучасная палітычная сістэма Беларусі грунтуецца на прынятай неканстытуцыйным шляхам Канстытуцыі 1996 года... Судовая ўлада не з'яўляецца незалежнай... Цывільныя ўлады не маюць эфектыўных спосабаў кантролю за дзейнасцю органаў бяспекі... Супрацоўнікі органаў бяспекі шмат разоў парушалі правы чалавека...».

Пакуль што ў Беларусі не зафіксавана толькі такога парушэння правоў чалавека, як «Палітычнае забойства або іншае пазасудовае пакаранне смерцю». Аднак ужо запоўненыя графы «Знікненне» (Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красуцкі), «Катаванне ды іншыя формы жорсткага, бесчалавечнага або прыніжальнага для чалавечай годнасці абыходжання ці пакарання», «Незаконны арышт, затрыманне ці высылка» (сотні ўдзельнікаў масавых акцыяў, апазіцыянераў, навабранцаў у арміі) і г.д.

Рэгулярна парушаюцца правы грамадзянаў на атрыманне інфармацыі. Тут, дарэчы, Дзярждэпартамент узгадаў і закрыццё газеты «Навіны» пасля судовага іску дзяржсакратара Віктара Шэймана, і ануляванне ліцэнзіі на выданне «Нашай Свабоды», якая была адноўленая толькі праз пэўны час – у выніку гэтага першы нумар «Нашай Свабоды» выйшаў толькі на мінулым тыдні, а не ў кастрычніку, як планавалася. У Беларусі існуюць цяжкасці з свабодай перасоўвання па краіне, выезду за мяжу, эміграцыі і рэпатрыяцыі, веравызнання... Усяго і не пералічыш.

У сваім выступе Джон Спекхард зазначыў, што замежныя назіральнікі могуць заўважаць праблемы, аднак вырашаць іх трэба беларусам. ■

## Напярэдадні зняволення

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ



Фота Ул.ШЛАПАКА

На працэсе ў Ленінскім судзе Мінска дэпутат Андрэй Клімаў выступіў з апошнім словам. Клімаў адразу ж заявіў, што, хаця прысуд яму будзе выносіць суд, але тэрмін прызначыць Аляксандр Лукашэнка. Справу супраць сябе дэпутат лічыць сфабрыкаванай паводле палітычных матываў і згадвае размову з Аляксандрам Лукашэнкам, што адбылася 5 студзеня 1996 года ў адміністрацыі прэзідэнта. Быццам бы Лукашэнка раіў Клімаву стаць на ягоны бок, інакш ён будзе лічыцца ворагам. «Ты прадпрымальнік, а наш народ лічыць, што калі чалавек прадпрымальнік, ён нешта скраў. Таму пасадзіць цябе няма праблемы, і ніхто заступацца не будзе», – так казаў, паводле Клімава, Аляксандр Лукашэнка. Але Клімаў да Лукашэнкі, як вядома, не прыслухаўся, не ягоны бок не перайшоў, а застаўся на баку Канстытуцыі 1994 года. Пра што Клімаў не шкадуе, нават трапіўшы ў турму, дзе таксама знайшоў шмат сяброў і прыхільнікаў. «Мне не было чаго баяцца, калі я быў на волі, — гэта лухта, што казала пракурор, быццам у мяне быў браніраваны «Мерседэс». Гэта быў дарагі «Мерседэс», але не браніраваны». А вось Лукашэнку такі аўтамабіль, на думку Клімава, вельмі спатрэбіцца. «...Бяда Лукашэнкі ў тым, што ён адхіліў тых, хто мог бы абараняць незалежнасць Беларусі і мог пераканаць у гэтым іншых», — лічыць Андрэй Клімаў. Чаго ж трэба баяцца Лукашэнку? На думку Клімава, новае кіраўніцтва Расіі хутка пачне размаўляць з Лукашэнкам з пазіцыяў сілы, а вось абаперціся яму не будзе на каго. Таму Клімаў лічыць, што кіраўніку Беларусі вельмі патрэбны браніраваны аўтамабіль. Увогуле дэпутат не выключае, што аднойчы беларусы прачнуцца не ў незалежнай краіне, а ў Паўночна-Заходнім краі, «губернатарам якога можа быць прызначаны нават той жа Нямцоў». Маўляў, ніхто і пальцам не кране, каб абараніць былога куміра. А ўвогуле Клімаў упэўнены, што той, хто парушыў правілы «не судзіце – ды не будзеце судзімы», сам сабе рыхтуе такі ж лёс.

«Гісторыя паўтараецца... Засудзіць у нас можна каго заўгодна. Прыйдзе час, будуць судзіць і прэзідэнта, бо ад законаў гісторыі нікуды не дзецца», – перакананы дэпутат Клімаў.

У сваім асабістым лёсе ён, падобна, не сумняваецца. Што яму прыйдзецца адправіцца ў турму сама меней яшчэ гадоў на шэсць (плюс два гады ўжо адбытых за кратамі, атрымаецца якраз мінімальныя восем па прад'яўленым яму артыкуле аб крадзяжы дзяржаўнай маёмасці). Дэпутат заяўляе, што нічога не скраў, а наадварот, гэта яшчэ гарадскі бюджэт вінны яму грошы за дом на Лодачнай, які пабудаваў Клімаў. Падсудны ўпэўнены, што ягоную невінаватасць падзяляюць і суддзі, аднак яны людзі падначальныя. «Не трэба ад іх чакаць немагчымага, хаця выбар для сумленнага чалавека заўсёды ёсць, нават калі заточкаў трымаюць каля тваёй шыі, выбар усё роўна ёсць», – перакананы Андрэй Клімаў.

На працэсе аб'яўлены перапынак да 9 сакавіка. Засталося выслухаць апошняга з дзевяці абвінавачаных па гэтай справе, і потым суддзі адправяцца складаць прысуд. ■

## У судзе сведчаць трэнеры

Аляксей ШМЯЛЁЎ

На паседжаннях у судзе Цэнтральнага раёна горада Мінска па справе «Фёдараў» - «Прэсбол» зараз выступілі сведкі, заяўленыя адказчыкам (газетай). У гэтай ролі выступілі некаторыя галоўныя трэнеры беларускіх футбольных клубаў.

Іх выступы зноў-такі згулялі на карысць журналістам, бо трэнеры яшчэ раз пацвердзілі многае з напісанага ў «Прэсболе» і шмат з тых пунктаў, на прысутнасці хлусні ў якіх настойваў законны прадстаўнік Фёдарава ў судзе Ёрш.

Наступным крокам у паседжаннях стане вывучэнне дакументаў, запатрабаваных як істцом, так і адказчыкам. Пасля ж гэтага пачнуцца заключныя спрэчкі. ■

## Вясна абудзіла рост цэнаў

Дзмітрый УЛАСАЎ

У лютым 2000 года ў Беларусі зноў выраслі кватэрная плата і тарыфы на камунальныя паслугі насельніцтву. Стаўка кватэрнай платы павялічылася на 8,4 працэнта і склала 2,43 дэнамінаванага рубля за адзін квадратны метр агульнай плошчы. Тарыфы на падагрэтую і халодную ваду, а таксама каналізацыю праіндэксаваны на 8,6 працэнта, газ – на 8 працэнтаў, вываз і абясшкоджванне адходаў – на 7,7 працэнта, цэнтральнае ацяпленне – на 2,1 працэнта.

У абсалютных лічбах для жыхароў Мінска тарыф на халодную ваду і каналізацыю вырас з 18,987 да 20,62 рублі за кубічны метр, ацяпленне – з 8,818 да 9 рублёў за адзін квадратны метр агульнай плошчы жылля. На 30 працэнтаў у лютым выраслі тарыфы за карыстанне электраэнергіяй. ■

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Правы чалавека: штогадовы агляд

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

29 лютага, праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентуе гадавы «Агляд-хроніку парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 1999 годзе».

На прэзентацыю запрошаныя прадстаўнікі амбасадаў Італіі, ЗША, ФРГ, Польшчы, Чэхіі і інш. Будуць прысутнічаць таксама былыя палітзняволеныя і родныя цяперашніх палітвязняў. ■

Працяг тэмы на стар. 6

### СПОРТ

## Чэмпіянат скончыўся... туманам

Аляксей СТАЎСКІ

З-за моцнага туману, які апусціўся на нарвежскі Халменколен, дзе праходзіў чэмпіянат свету па біятлоне, спаборніцтвы засталіся незавершанымі. Як назло, здарылася гэта ў момант самай кульмінацыі мужчынскай эстафеты 4х7,5 кіламетраў, калі спартсмены праходзілі апошні агнявы рубеж. Беларуская каманда ішла ў той момант на трэцім месцы і мела рэальныя шанцы прэтэндаваць барацьбу за медалі. Цяпер гонка, верагодней за ўсё, будзе праведзеная праз тыдзень у фінскім Лахці, як дадатак да этапу кубка свету, але медалі за яе, зразумела, будуць уручаца як за чэмпіянат свету.

Увогуле ж у гэтым годзе беларуская зборная выступіла на чэмпіянаце вельмі няўдала. Нашыя біятланісты і біятланісткі ўпершыню не заваявалі ніводнага медаля (калі, канешне, не зробяць гэта ў Лахці). Верагодналй прычынай гэтага называюць пераемжыты камандай стрэс пасля таго, як у галоўнага трэнера каманды Аляксандра Папова ў Мінску скралі сорак тысяч амерыканскіх долараў. Але, як бы там не было, выступленне беларусаў у Нарвегіі многія характарызуюць як правал. ■

### БЕЛАРУСКІЯ РЭГІЁНЫ

## Крэдытаў не будзе. Будуйцеся самі

Віктар КАВАЛЁЎ, Гомель

**Тэарэтычна абгрунтаваная праграма жыллёвага будаўніцтва ў найбольш радыяцыйным абласным цэнтры Беларусі.**

Намеснік старшыні Гомельскага гарвыканкама Іван Барадзінчык на сустрэчы з мясцовымі журналістамі не стаў уводзіць у зман наконт крытычнай сітуацыі ў жыллёвым будаўніцтве. На 2000 год запланаваны ўвод 145 тысяч квадратных метраў. Яны будуць заселеныя толькі пры ўмове, што чаргавікі раскашэляцца на ўласныя рэсурсы. На дзяржаўныя субсідыі і крэдыты спадзявацца не даводзіцца. Гарвыканкам ужо прапанаваў расфарміравацца 15-ці раней створаным калектывам індывідуальных забудоўшчыкаў (КІЗы). ■

## З нашага берага да іхняга

Уладзімір ЗЯНЬКО, Брэст

**На ўрадавым узроўні зацверджаная дамова аб будаўніцтве новага аўтадарожнага моста праз раку Заходні Буг на пагранічным пераходзе Казловічы—Кукурыкі.**

Вузкае ў натуральным сэнсе месца дарожнай пераправы з нашага берага на польскі бок даўно патрабуе замены. І не наша, як гаворыцца, заслуга, што да 2003 года «дальнабойшчыкі» дачакаюцца нарэшце зручнага раз'езда па шырокім мосце. Еўрасаюз, які перасоўвае памежныя пераходы на беларуска-польскую граніцу, дапаможа грашовымі сродкамі на сумесны будаўнічы праект. Яго тэхнічную дакументацыю распрацуюць беларускія інжынеры, і, магчыма, айчынныя мостабудаўнікі выйграюць тэндэр на ўзвядзенне новай пераправы. ■

## Дапамога па стандартах ЗША

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ, Мінск

**Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці і амерыканскі Міжнародны саюз аховы здароўя спансіравалі заснаванне ў сталічнай бальніцы «Хуткай дапамогі» вучэбна-трэніровачнага цэнтра неадкладнай медыцыны.**

Амерыканскія стандарты, паводле якіх патрульны паліцэйскі можа прыняць роды на вуліцы, а супрацоўнік ДАІ выратаваць вадзіцеля ад алкагольнага атручвання, змогуць ужо сёлета асвоіць 600 слухачоў на курсах у беларуска-амерыканскім вучэбна-трэніровачным цэнтры, які напрыканцы лютага ўрачыста адкрыты на базе мінскай бальніцы «Хуткай дапамогі». ■

## І на футра кладуць вока

Галіна КАЗІНЕЦ, Гродна

**Прыватніцкія апетыты маскоўскіх бізнесменаў гатовыя праглынуць прадукцыю беларускіх зверагаспадарак.**

З Гродна ў Маскву былі запрошаныя кіраўнікі прадпрыемства Белкаапсаюза «Гродзенская зверагаспадарка», якія агітаваліся на прадмет саўдзелу ў праектах Расійскага пушніна-футравага саюза. Бедныя на абарачальныя грошавыя сродкі, але ўмелыя да гадоўлі норак з каларытным футрам заатэхнікі з Прынямоння вымушаныя пагадзіцца на экспарт некалькіх тысяч шкур звяркоў, хаця больш прыбытковым было б прадаваць на валютным рынку Захаду гатовыя вырабы. ■

## Лепшыя лекі – добры абед

Мікола КРУК, Магілёў

**Хворым на сухоты беларусам пачала дапамагаць міжнародная доўгатэрміновая дабрачынная праграма Чырвонага Крыжа.**

Гуманітарны офіс «ЭКО» Еўрапейскай эканамічнай супольнасці выдаткаваў Беларускаму таварыству Чырвонага Крыжа грашовыя сродкі для закупкі харчовых набораў хворым на сухоты людзям. Гэта акцыя з'яўляецца састаўной часткай доўгатэрміновай праграмы, якая мае на мэце супрацьстаяць абвалу хваробы, асабліва ў пацярпелых «чарнобыльскіх» рэгіёнах. ■

## Грып забраў адно жыццё і вытрас з кашалькоў вялікія грошы

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Эпідэмія «аўстралійскага» грыпу, якая распачалася на Беларусі ў канцы студзеня, можа пратрымацца яшчэ тры тыдні. Толькі у двух кантрольных гарадах — Пінску і Брэсце зняты каранцін, а ў дванаццаці па-ранейшаму эпідэміялагічная сітуацыя.**

З пачатку эпідэміі і па стане на апошнюю дэкаду лютага па медыцынскую дапамогу звярнуліся 299.000 чалавек, дзве тысячы з якіх былі шпіталізаваныя. Як паведамілі ў аддзяленні паветрана-крапельных інфекцыяў Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, у Беларусі зарэгістраваны першы сёлета лятальны зыход – у канцы студзеня ў Мінску памёр 70-гадовы мужчына з дыягназам «грып, вострая пнеўманія і гемарагічны інсульт».

Кожны хворы на грып вымушаны быў выкладці са сваёй кішэні немалыя грошы, агульная сума якіх, паводле самых сціплых падлікаў, перавышае 90 мільёнаў «новых» беларускіх рублёў. ■

 



# Польская дысцыпліна для беларускага «чаўнака»

## Прарасійскія настроі беларусаў шкодзяць ім нават у камерцыйных паездках на тэрыторыі суседняй Польшчы

Станіслаў ЛОМ

**Калі б большасць беларускага насельніцтва добра ведала гісторыю сваёй Бацькаўшчыны і, напрыклад, тое, што літвіны і палякі былі, як правіла, сувязнікамі ў барацьбе з трэцімі краінамі, то наўрад ці ў 94 годзе ідэалагічным санітарам удалося б амаль бесперашкодна дабрацца да цела электарата на прадмет яго прышчэпак сывараткай, густа замешанай славянскімі інтэграстамі. А таму атрымалі што маем. Прапагандысцкая інфармацыя ўсё гучней называе суседнюю краіну фарпостам агрэсіі НАТО, ствалы зброі якой быццам бы развернуты на Усход.**



Фота IREX/ProMedia

У эканамічных варунках падыходы таксама пасыпаны попелам канфрантацыі. Напрыклад, калі ў 1996 годзе ў Беларусі працавалі 573 сумесныя беларуска-польскія прадпрыемствы і 209 з польскім капіталам, то пасля перарэгістрацыі ў 1998 годзе іх шэрагі парадзелі і нават дагэтуль не аднавіліся ў першапачатковай колькасці.

Зрэшты, у цяні пад «парасонам» усё ж не спадае гарачыня «чаўночнага» бізнесу. Так, паводле звестак з беларускіх мытняў, у 1994 годзе ў Польшчу па турыстычнай візе выехала 2.150 тысяч чалавек, у 1995 – 3.275 тыс. чал., у 1999 – больш за 4 мільёны. У цяперашнія дні на чыгуначным вакзале «Брэст-Цэнтральны», дзе, дарэчы, адрамантавана зала пагранкантролю і больш зручны накапляльнік ля перона, у электрычку так званага «кароткага пляча» Брэст—Седльце і Брэст—Тэрэспаль набіваецца да 1.300 чалавек, пры сярэдняй умяшчальнасці 800 пасажыраў. І паколькі ў большасці на руках білет да першай станцыі, то асобныя паспяваюць, як гаворыцца, збыць тавар проста з дзвярэй, каб пасля вяртання ў Брэст паспець зноў ускочыць у цягнік заходняга накірунку. Невыпадкова, што ў беспрацоўных брэсцкіх гандляроў, а таксама часова занятых на службе ў дзяржканторах прыбіральшчыц, вартаўнікоў, вахцёраў і т.п. пашпарты зачарнілены штэмпелямі па абедзве вокладкі. Вязуць не тое, што хочуць, а цыгарэты і гарэлку, якіх па польскіх мытных правілах можна мець пры сабе адпаведна 18 пачак і адзін літр. Але мне самому, напрыклад, даводзілася бачыць нашытыя ў вопратцы непрамакальныя «лавушкі» на 10 і больш літраў, якія, як толькі цягнік скрануўся з месца, са спрытам цыркавога фокусніка апусташаюцца ў пляшкі з-пад мінералкі, закаркоўваюцца ручной закаткай і «афармляюцца» фірмовай этыкеткай з узнагароднымі медалямі міжнародных выставаў Брэсцкага ЛГЗ... «Манаполька», прапануемая танней за самы нізкапробны напой пяцідоларавага кошту, між тым кантрабандная ў «квадраце», бо не перасыхае канал дастаўкі спірту з Украіны пад заказ оптам і ў розніцу на Беларусі. І калі давяраць растыражаваным дадзеным польскага боку, то толькі за папярэдні год дынамічная эканоміка гэтай краіны недалічылася больш як аднаго мільярда (!) долараў ЗША, нелегальна прысабечаных заезджымі і сваёй гадоўлі кантрабандыстамі.

На фоне ірваных суседскіх адносінаў паміж палітычнымі вярхамі ў нізы таксама трансфармуецца ўзаемная непрыязнасць. І калі паляк у форме круціць рукі «турысту» з валізкамі, то для краёўца гэта не падаецца абразай дэклараваных правоў чалавека з краіны-заснавальніцы ААН. Апраўданне, пагрозы ці мацюкі парасійску ўздзейнічаюць у гэтым выпадку, як на тарсідзе на быка чырвонае палотнішча.

13 лютага ў гарадку Гіжыцку, што блізка ля Ольштына і непадалёку ад Беластока, польскія паліцыянты сумесна з памежнікамі «зачысцілі» вулічны гандаль, забіраючы пашпарты і ваўчары. 47 беларусаў былі этапіраваны ў пастарунак, і з імі, на жаль, абыходзіліся хамавіта на працягу амаль што дзесяці гадзінаў, пасля чаго 37-мі «залётнікам» вярнулі дакументы і тавар. 10 чалавек, хто меў кантрабанду і «ліпу» ў паперах, патрапілі ў спіс да вармінська-мазурскага ваяводы, які ўласнаручна падпісаў рашэнне аб іх неадкладнай дэпартацыі без права наведваць Польшчу ў бліжэйшыя пяць гадоў.

Аналагічная сітуацыя мела месца ў Беластоку 20 жніўня 1998 года, калі падчас паліцэйскай аблавы былі затрыманы 25 беларускіх грамадзянаў па абвінавачванні ў незаконным гандлі з пратэрмінаванай візай на руках. Афіцыйна Мінск тады і зараз вымушаны расцэньваць дзеянні польскіх «сілавікоў» як неадэкватныя. У ноце пратэсту МЗС, якую атрымаў выкліканы ў міністэрства пасол Польшчы Марыуш Машкевіч, зноў былі радкі пра адсутнасць у польскіх уладаў жадання вырашыць праблему канструктыўна, паважаючы гонар грамадзянаў і дух добрасуседства.

Дыпламатычная перапіска, аднак, як летась у жніўні, так і ў лютаўскую адлігу зараз параўнальная хіба што з лістамі чэхаўскага Ванюшы. Польскі МЗС паслядоўна аснашчае консульскія ўстановы найноўшым абсталяваннем, а ў цэнтры інтэнсіўна напрацоўвае юрыдычную базу па ўводзе візавага рэжыму ў адносінах да шэрагу дзяржаваў, сярод якіх фігуруюць Расія, Украіна і Беларусь. Палітычная падкладка гэтага відавочная: Варшава імкнецца ў Еўрапейскі Саюз, а Беларусь апынулася ў моцнай залежнасці ад Крамля і крочыць у фарватары яе знешняй палітыкі, адкрыта афішуючы ўзмацненне ваенна-палітычнага саюза дзеля супрацiву НАТО. І калі геапалітычныя розгаласы раней не мелі істотнага ўплыву на феномен беларускай свядомасці, што Польшча – гэта прыбытковы вольны базар, то ўведзеныя абмежаванні да дзвюх паездак у месяц, а затым і перспектыва набываць візу ахалоджваюць галовы. Народ, асабліва ў бліжэйшым памежжы, выказвае незадавальненне наконт магчымай страты прыбытковых ваяжоў на суседнюю тэрыторыю, якая можа апынуцца за «жалезнай заслонай». ■

# Холодные войны начинают хулиганы

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ

**Серьезно осложнились отношения между Польшей и Россией. Месяц назад разразился скандал, вызванный удалением из Польши 9 российских дипломатов, обвиненных в шпионаже. Со стороны возмущенной России тут же последовали ответные шаги, и Москву были вынуждены покинуть 9 работников польского посольства. Россияне усматривали в столь беспрецедентных в истории мировой дипломатии (удаление сразу 9 дипломатов) шагах поляков нажим НАТО, но генеральный секретарь НАТО Робертсон подчеркивал, что, хотя руководство НАТО было поставлено в известность, это было суверенное решение Польши.**

И вот новый удар по польско-российским отношениям. 23 февраля в день 56-й годовщины депортации Сталиным чеченцев в Сибирь (день, который, кстати, совпадал с 55-й годовщиной освобождения Познани советскими войсками от фашистов!) во время пикета у здания польского консульства в Познани его участники ворвались на территорию консульства, сорвали и растоптали российский флаг, а на стенах консульства черной краской написали «Убийцы» и нарисовали фашистские свастики. На пикет организаторы пришли с лозунгами: «Разбомбить Кремль!», «Требуем международной блокады России!» Пикет в Познани был нелегальным — организаторы не сообщили о нем заранее властям города, как надлежит по закону (в таком случае власти города обеспечивают усиленную охрану консульским учреждениям). Одинокий полицейский не вмешивался в действия пикетирующих, а вызванные силы правопорядка приехали через 15 минут, когда хулиганы уже вышли за ворота консульства, где и были задержаны.

Организаторами хулиганских выступлений в Познани были члены Комитета «Свободный Кавказ», созданного в Познани деятелями молодежных организаций «Нашость», и анархистская федерация. Первая из этих организаций известна своими неоднократными хулиганскими выходками: именно ее члены в 1997 г. бросали в Париже яйцами в польского президента.

Российские власти остро отреагировали на инцидент. Польскому послу в Москве Анджею Залуцкому была вручена нота, в которой было выражено крайнее возмущение осквернением хулиганами российских государственных символов, нарушением экстерриториальности дипломатического представительства. Польские власти и власти города Познань принесли свои извинения российской стороне. Остро критиковала выходки познаньских хулиганов и бездействие полиции польская пресса.

Тем временем российские средства массовой информации состязались в комментариях «бандитского нападения в Польше», перенося выходку группы хулиганов на целый народ: заголовок одной из статей назывался «Хамство по-польски». Подобные акты вандализма случались и в России. Например, во время налетов НАТО на Югославию молодые люди, подстрекаемые Жириновским и лидерами коммунистической партии, в течение нескольких дней забрасывали яйцами, банками с краской посольство США в Москве, жгли перед ним американские флаги. При этом российская милиция не вмешивалась в эти эксцессы. И только когда кто-то (до сих пор не установлено кто!) попробовал обстрелять американское посольство из гранатомета, милиция прогнала демонстрантов на другую сторону улицы.

На сей раз в России также нашлись желающие «отомстить» полякам. Сначала милиция задержала недалеко от польского посольства в Москве трех членов большевистской партии Лимонова, которые пытались бросить на территорию посольства бутылку с зажигательной смесью. Но в субботу пикетирующие польское посольство могли в свое удовольствие при молчаливом позволении сил правопорядка «излить свой праведный гнев», сжигая польские флаги и забрасывая здание посольства мешочками с краской.

«Метать молнии» продолжали и в высших эшелонах власти: министр иностранных дел России заявил, что отменяет свой визит в Варшаву, запланированный на 4 марта. Вновь с требовательной интонацией поставлен вопрос о том, что польские власти должны запретить деятельность в этой стране организаций, оказывающих поддержку чеченскому народу.

Некоторые круги в России пытаются представить инцидент в Познани как прямой выпад против Владимира Путина, если не всей России. Как считает публицист «Независимой газеты» Игорь Коротченко: «*В январе кремлевские аналитики твердили, что удаление из Польши наших дипломатов является атакой на престиж Владимира Путина. Теперь будут повторять то же самое. И и.о. президента в этой ситуации будет вынужден продемонстрировать, что он способен на более острую реакцию*».

Российский консул в Познани Игорь Ощепков видит в выходке молодчиков из Комитета «Свободный Кавказ» «обычную месть поляков за годы коммунизма». «*Когда лев болен, его может лягнуть даже обезьяна. А когда лев выздоровеет, что тогда?!*» — заявил российский консул журналистам «Газеты Выборчей».

**Последний опрос общественного мнения, проведенный накануне познаньских событий, показал, что только 3% поляков (ранее 7%) оценивают польско-российские отношения как хорошие. Более чем половина опрошенных (57%) считает, что Россия движется скорее к диктатуре, чем к демократии (11%).**

СУСЕДЗІ

# В российском национализме Путина нет никакой романтики

Уильям ПЛАФФ,
обозреватель International Herald Tribune

Практически не осталось сомнений в том, каким видит Владимир Путин будущее России. Он хочет восстановить порядок и вернуть России былое влияние и статус сверхдержавы. Война в Чечне является особенно жестоким проявлением намерений Путина. Причины ее возникновения весьма туманны, однако война, скорее всего, сделает Путина новым президентом России. По его словам, Россия нуждается в диктатуре закона. Путин выражает также сожаление, что некоторые субъекты федерации требуют себе слишком много суверенитета. По словам бывшего премьер-министра Сергея Степашина, подготовка к войне началась еще в марте 1999 года. Согласно недоказанным предположениям, она была намеренно развязана правительством Ельцина путем специально срежиссированного вторжения чеченских боевиков в Дагестан и якобы подготовленных террористами взрывов в Москве. Цель состояла в том, чтобы поставить во главе государства Путина путем переноса срока выборов на более ранний срок. Окружение бывшего президента Ельцина опасалось потерпеть поражение на выборах и подвергнуться судебному преследованию. Парадоксально, но Путин извлекает выгоду из широкомасштабной коррупции, поскольку он молод, энергичен и дает понять, что хочет положить конец длительному периоду анархии. Он и его сторонники захватывают электронные и печатные СМИ с целью остепенить демократию, которая может навредить предвыборной кампании. Репортажи о войне должны быть только позитивными. Усиливается политический контроль за вооруженными силами. Индульгенция, выданная российской стороне Западом на жестокости в Чечне, вполне понятна с точки зрения политического реализма, но недостойна проповедуемых западом идеалов. Вы имеете дело с конкретной Россией, а не с той, какой бы вы хотели ее видеть. Тем не менее, стремление выдать желаемое за действительное совершенно очевидно, о чем свидетельствуют визиты в Москву генерального секретаря НАТО Робертсона, госсекретаря США Олбрайт, а также глав внешнеполитических ведомств Германии, Франции и Италии. Президент Клинтон назвал Путина человеком, с которым можно вести дела. Заместитель госсекретаря США Строуб Тэлботт, несущий основную ответственность за политику США в отношении России, заявил, что долгое время он был заворожен дуализмом русской культуры и политики, совмещающих в себе наиболее привлекательные и самые ужасные человеческие качества. Способствует росту российского национализма и намерение США создать собственную систему противоракетной обороны, требующую внесения поправок в Договор по ПРО. Российские власти отказываются пойти на этот шаг, а Путин объявляет о новой концепции национальной безопасности, предусматривающей более широкие возможности для применения ядерного оружия. США активизируют также свои действия в Каспийском регионе, направленные на строительство нефтепровода в обход России, которые следует рассматривать в рамках более широких усилий по вытеснению России из Кавказа и Средней Азии. Что случится в России в ближайшее десятилетие — возможно, самый сложный и важный вопрос для международной безопасности. Мы можем прогнозировать вероятные сценарии развития событий в других ядерных державах. Но таких сценариев нет для России. И все же Россия ближе других к «взрывоопасному состоянию». ■

 

 



# Турэмная адысея Бабіцкага

## Журналіст, якога трымалі ў Чарнакозаве, небяспечны для расійскіх уладаў

**Карэспандэнт Радыё Свабода на Паўночным Каўказе Алег Кусаў быў першым журналістам, якому давялося сустрэцца з сваім калегам і сябрам Андрэем Бабіцкім. Ён правёў ноч у будынку МУС Дагестана разам з ім. Мы прапануем увазе нашых чытачоў скарочаны пераказ інфармацыі, атрыманай А.Кусавым ад Бабіцкага.**



16 студзеня 2000 г. на выхадзе з Грознага Андрэй Бабіцкі быў затрыманы «міліцыянтамі» Руслана Гантэмірава (або федэральнымі войскамі – гэта дакладна невядома) і практычна адразу накіраваны ў фільтрацыйны лагер Чарнакозава. Хутчэй за ўсё, менавіта там ён правёў увесь час да 2 лютага, калі да яго паступіла прапанова аб абмене на расійскіх ваеннапалонных. Бабіцкі сам пагадзіўся на гэты абмен, калі яму паведамілі, што ў выніку ён патрапіць да палявога камандзіра Аттерыява, якога ён ведаў асабіста.

2 лютага Бабіцкага вывезлі з Чарнакозава і павезлі ў Гудэрмес. Там ён сустрэўся з нейкімі людзьмі, магчыма – са спецслужбаў, якія і павезлі яго на трасу, на якой мусіў адбыцца абмен. Калі журналіст пабачыў чалавека ў масцы, які за ім прыехаў, то зразумеў, што гэта не Аттерыяў. Тады Бабіцкі адмовіўся ад абмену. Але яму далі зразумець, што ягонае слова ўжо не мае ніякага значэння, і чалавек у масцы груба схапіў яго і павёў у машыну.

Пасля абмену Бабіцкага прывезлі ў нейкі дом – журналіст падкрэслівае, што гэта быў менавіта дом чачэнца, але дзе гэта было, ён не ведае. Яго ўтрымлівалі ў зачыненым пакоі, вельмі кепска кармілі і не давалі ніякай інфармацыі. Усё прымушала чакаць найгоршага. Па словах Андрэя, ён думаў, што яго могуць у любы момант расстраляць. Аднойчы яго пасадзілі ў аўтамабіль, і, нічога не пытаючыся, павезлі ў невядомым накірунку. Гэтак ён апынуўся ў Махачкале – у пятніцу, 25 лютага, зранку.

Разам з двума чачэнцамі, якія адыгрывалі ролю ці то ягоных ахоўнікаў, ці то вартаўнікоў, ён пасяліўся ў гатэлі «Каспій» па пашпарце на імя Алі Мусаева. Гэтыя людзі ўвесь час былі побач з ім.

У 8.30 ранку Бабіцкі патэлефанаваў ва Уладзікаўказ Алегу Кусаву, і яны дамовіліся аб сустрэчы ў 8 гадзінаў вечара ў гатэлі «Ленінград» у Махачкале.

Як сцвярджае сам Андрэй Бабіцкі, зранку ён таксама наведаў кніжную краму, што знаходзілася ў тым гатэлі, дзе ён жыў, і супрацоўніцы крамы пазналі яго. Потым ён пайшоў у кафэ, і там яго затрымалі байцы дагестанскага АМАПу.

Цяпер Бабіцкі знаходзіцца ў вельмі цяжкім псіхалагічным стане. Па словах Алега Кусава, журналісту было вельмі цяжка распавядаць пра тое, што з ім адбывалася спачатку ў расійскім, а потым і ў чачэнскім палоне. На вачах ён ператвараўся з жыццярадаснага ў «забітага» чалавека.

Цяжка яму і ўзгадваць тое, што адбывалася ў Чарнакозаве. Андрэй Бабіцкі не толькі сам адчуваў пэўныя фізічныя цяжкасці, але і бачыў пакуты іншых людзей, жанчын. Яго самога ні да чаго не прымушалі. Аднак умовы ўтрымання былі вельмі жорсткія. Адзін з дзён ён правёў у маленькай камеры метр на паўтара разам з яшчэ двума чачэнцамі. Яны нават спалі стоячы ўсю ноч.

Цяпер Бабіцкі абвінавачваецца ў падробцы дакументаў, супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа. У нядзелю стала вядома, што расійскія ўлады вырашылі пакінуць Бабіцкага за кратамі да пачатку суда – палічыўшы, што ён прадстаўляе сабой небяспеку для расійскага грамадства.

Аднак ужо ў панядзелак в.а. прэзідэнта Расійскай Федэрацыі У.Пуцін «выказаў думку», што, маўляў, някепска было б адпусціць Бабіцкага на волю. І вось у ноч з панядзелка на аўторак у пустым самалёце, які, на думку самога журналіста, належыць міністру ўнутраных справаў У. Рушайлу, яго перакідваюць з Махачкалы ў Маскву і выпускаюць пад падпіску аб нявыездзе. Пры гэтым ні жонка Бабіцкага, ні ягоны адвакат нічога пра гэта не ведаюць.

У пятніцу, 25 лютага, амерыканскі сенат аднагалосна прыняў рэзалюцыю па сітуацыі вакол Андрэя Бабіцкага: «Затрыманне Андрэя Бабіцкага расійскімі ўладамі і дэзінфармацыя, што ўрад Расійскай Федэрацыі распаўсюджвае на гэты конт – прадстаўляе сабой вартае ганьбавання абыхожанне з цывільнай асобай у зоне канфлікту ў парушэнне Жэнеўскай канвенцыі і дадатковых пратаколаў, дэманструе нецярпімасць урада Расійскай Федэрацыі да свабоднага і адкрытага друку. Дзеянні ўрада Расійскай Федэрацыі накладаюць на яго адказнасць за бяспеку Андрэя Бабіцкага. Урад Расійскай Федэрацыі мусіць забяспечыць паспяховае вяртанне карэспандэнта Радыё Свабода Андрэя Бабіцкага. Урад Расійскай Федэрацыі мусіць прадставіць поўную справаздачу пра акалічнасці затрымання Андрэя Бабіцкага і тыя абвінавачванні, якія могуць быць яму прад'яўленыя. Расійскія ўлады мусяць неадкладна спыніць пераслед журналістаў – як айчынных, так і замежных, – якія асвятляюць вайну ў Чачні або любыя іншыя падзеі ў Расійскай Федэрацыі.

Урад Расійскай Федэрацыі мусіць у поўнай меры прытрымлівацца Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, артыкул 19 якой гаворыць: «кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выказванне іх; гэтае права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымоўваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі незалежна ад дзяржаўных мэтаў». ■

# Чачня важнейшая за здароўе

**Згодна з апытаннем Усерасійскага цэнтра вывучэння грамадскай думкі (ВЦИОМ), якое праводзілася ў лютым, падзеі ў Чачні абуджаюць у расіянаў куды больш эмоцыяў, чым уласнае здароўе, поспехі на працы ці нават рамантычнае і сексуальнае жыццё.**

Апытанне праводзілася сярод 1.600 чалавек у больш чым 50 рэгіёнах Расіі. Дзеля большай аб'ектыўнасці і з мэтай дакладна адлюстраваць меркаванні ўсяго 150-мільённага расійскага грамадства, рэспандэнтаў таксама адбіралі паводле іхніх палітычных сімпатыяў: каб кожную партыю прадстаўляла менавіта столькі яе прыхільнікаў (у працэнтах), колькі яна атрымала на апошніх парламенцкіх выбарах.

Дык што ж найбольш цешыць расіянаў апошнім часам? На першым месцы – гэта стасункі ў сям'і. Сямейным каштоўнасцям аддаюць перавагу 28% апытаных. На другім месцы – гэта добрыя стасункі са знаёмымі і супрацоўнікамі (19%). А вось ваенныя дзеянні ў Чачні цалкам задавальняюць і прыносяць шмат радасці ажно 17% рэспандэнтаў — гэта трэцяе, «ганаровае» месца. Самымі шчаслівымі з нагоды гібелі соценя і тысяч людзей адчуваюць сябе прадстаўнікі электарата ЛДПР – для іх падзеі ў Чачні выйшлі нават на першае месца ў рэйтынгу радасцяў. І далёка ззаду засталіся стан здароўя, поспехі на працы, рамантычнае або сексуальнае жыццё... Радасць ад сексу ў расіянаў, дарэчы, каціруецца прыкладна на ўзроўні радасці ад асэнсавання матэрыяльнага становішча сваёй сям'і або становішча справаў у сваім горадзе (раёне).

У спісе найбольшых непрыемнасцяў, якія псуюць настрой расіянам, ваенныя дзеянні ў Чачні зноў-такі займаюць трэцяе месца (36% апытаных). Больш непрыемнымі рэспандэнтам падаюцца толькі эканамічнае становішча Расіі (44%) і матэрыяльны стан сям'і (41%). І зноў-такі, стан уласнага здароўя і здароўя блізкіх, праца і секс клапоцяць куды менш – трэба разумець, ці то ўсё з гэтымі сферамі жыцця ў расіянаў у парадку – але чаму тады яны не прыносяць радасці? – ці проста ім не надаецца ніякай увагі. Вось такая яна, загадкавая руская душа... ■







# Сімвал расійскага парадку

На мінулым тыдні ўвесь свет абышла стужка, на якой расійскія вайскоўцы хавалі трупы чачэнцаў. Стужка ўражвала сваёй жахлівасцю – грузавік цягнуў трупы за ногі, ногі шмат якіх ахвяраў былі звязаныя калючым дротам, у некаторых не было вушэй.

Упершыню стужка была прадэманстраваная нямецкай тэлекампаніяй Pro-7. Журналіст Франк Хёфлінг сцвярджаў, што ён зняў пахаванне мірных жыхароў Чачні, што былі расстраляныя падчас зачысткі расійскімі войскамі, здымкі вяліся недзе непадалёк ад Грознага.

Тэлесюжэт выклікаў вялікую хвалю абурэння сярод расіянаў. Першай ластаўкай стала заява прадстаўніка ФСБ Расіі А.Здановіча, потым выступілі ўсе іншыя «патрыёты айчыны». Захад сталі абвінавачваць у правакацыі, у вядзенні «інфармацыйнай вайны» супраць Расіі, у выкананні палітычнай замовы, у «несумленнай гульні», у агрэсіі супраць Югаславіі...



У суботу карэспандэнт «Известий» Алег Блоцкі абвясціў на ўсю краіну, што сапраўдным аўтарам стужкі з'яўляецца ён, а не Франк Хёфлінг. Аднак пра тое, як гэтая стужка патрапіла да нямецкага тэлежурналіста, расіянін замоўчваў. Па ягоным сцвярджэнні, ён здымаў пахаванне забітых баевікоў, а не мірных жыхароў, і не побач з Грозным, а ў сяленні Рошні-Чу.



У панядзелак Алег Блоцкі даў прэс-канферэнцыю, на якой практычна пацвердзілася ягонае аўтарства здымкаў. І толькі. Пра «фальш» і «пастановачнасць» кадраў казаць яшчэ зарана. Расійскаму журналісту давялося прызнаць, што ён не проста так перадаў стужку прадстаўніку нямецкай тэлекампаніі, а канкрэтна «загнаў» яе за пэўную суму – сума пакуль не называлася. Ён таксама прызнаў, што раней спрабаваў «спіхнуць» яе двум расійскім тэлеканалам, але тыя адмовіліся – з-за «залішняй натуралістычнасці» кадраў.

У радасным, шчанячым энтузіязме: нямецкія кадры – «фальшыўка!» — расійскія ўлады і шмат якія СМІ неяк зусім не звяртаюць увагі на іншае пытанне: нават калі расійскія вайскоўцы хавалі не мірных жыхароў, а баевікоў, то куды падзеліся вушы? Ці расійскія снайперы замест таго, каб цэліць у галаву ці сэрца, мэтанакіравана стралялі па вушах?

Вось як тлумачыць гэтую з'яву сам Алег Блоцкі: *«Мне даводзілася бачыць жорсткасць нашых войскаў падчас зачыстак, але ў выпадку з гэтай стужкай размова ідзе пра баевікоў, якія загінулі ў баях са зброяй у руках. Сапраўды, нашыя салдаты часта бываюць выключна жорсткімі. Спецназ і выведка сапраўды рэжуць вушы, але не ва ўсіх баевікоў. Для салдата ў Чачні западло падысці да любога забітага і адрэзаць вушы, гэта робяць толькі з тымі баевікамі, якіх знішчаюць уласнымі рукамі. І не забывайцеся, што чачэнцы, у сваю чаргу, рэжуць галовы яшчэ жывым людзям, што знаходзяцца ў палоне, а не ўжо забітым ворагам падчас бою»*.

Такім чынам, калі чачэнцы рэжуць галовы, гэта кепска. А вось калі расійскія салдаты, якіх паслалі «наводзіць канстытуцыйны парадак» у расійскім рэгіёне – Чачэнскай рэспубліцы, – рэжуць вушы ў забітых, валакуць трупы па зямлі шмат кіламетраў, прычапіўшы ногі ланцугом або калючым дротам да грузавіка, дык гэта цалкам нармалёва, гэта «каціць»?! Гэта такі парадак Расія імкнецца навесці на сваёй тэрыторыі?

Можна яшчэ крыху паразважаць: што ж расійскія бравыя хлопцы-спецназаўцы робяць з адрэзанымі вушамі? Мо, складваюць у свой рэчавы мех – каб потым прывезці дадому і паказаць дзецям. А пасля вуха зойме сваё пачэснае месца на сцяне – паміж ласінымі рагамі і галавой дзіка, якія таксама калісьці былі забітыя добрым паляўнічым-гаспадаром хаты. ■

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

 

 



# Купка чыноўнікаў зачышчае Мінск

## На юбілейныя праваслаўныя Каляды-2000 былы мэр Мінска У.Ярмошын увекавечыў сваё імя ў спісе мінскіх герастратаў

**Уладзімір ДЗЯНІСАЎ**

**Першыя спробы знішчыць гэты помнік былі зробленыя ў 1970-я гады. Тады новы гмах Купалаўскага тэатра планавалася паставіць у цэнтры пл.Свабоды і адпаведна зруйнаваць усю навакольную гістарычную забудову XVII—XIX стст. Будынкі вялікага гасцінага (пл.Свабоды, 2-10) і малога гасцінага двара (пл.Свабоды, 19-21) улады меркавалі разбурыць да пачатку алімпійскіх гульняў 1980 г., а выслабаненае месца аддаць пад стаянку легкавікоў.**

Гэтыя вандальскія планы не здзейсніліся па дзвюх прычынах. У 1979 г. Мінгарвыканкам сваім рашэннем прыняў пад ахову Верхні горад як комплексны помнік археалогіі, гісторыі, горадабудаўніцтва і архітэктуры. Адначасова была зацверджаная і яго ахоўная зона — тэрыторыя Верхняга горада абвяшчалася запаведнай. Па-другое, на абарону Верхняга горада выступіла навуковая і творчая інтэлігенцыя. Аднак да канца 1980-х гадоў архітэктурнае ўпраўленне Мінгарвыканкама не пакідала ідэю будаўніцтва тэатра на плошчы Свабоды.

Новая пагроза знішчэння комплексу малога гасцінага двара ўзнікла з пачаткам будаўніцтва другой лініі мінскага метрапалітэна. Паводле зацверджанага праекта, гэтая лінія павінна была прайсці па запаведнай тэрыторыі гістарычнага цэнтра Мінска. Планавалася зруйнаваць шмат помнікаў архітэктуры і археалогіі. Але ў гэты час гістарычны цэнтр Мінска быў уключаны міністэрствам культуры СССР у Спіс помнікаў гісторыі і культуры агульнасаюзнага значэння. Пасля гэтага, паводле пастановы СМ БССР, комплекс дамоў на пл.Свабоды, 19-21 атрымаў статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Незалежную экспертызу праектнай дакументацыі метрабудаўцаў было даручана правесці групе экспертаў, створанай міністэрствам культуры СССР у 1988 г. Узначаліў групу вядомы спецыяліст па захаванні спадчыны прафесар С.Чарнышоў. Інстытут «Мінскметрапраект» падрыхтаваў дэталёвы праект па захаванні і кансервацыі помніка. Да працы былі прыцягнутыя вядучыя навуковыя ўстановы Мінска і Масквы. Гэтыя мерапрыемствы дазволілі захаваць помнік, і нават сёння спецыялісты інстытута «Мінскметрапраект» лічаць, што пры правядзенні сапраўдных навукова-рэстаўрацыйных работ існавала 100-працэнтная магчымасць амаль цалкам захаваць аўтэнтычныя канструкцыі будынкаў, якія ўяўлялі значную гістарычную і навуковую каштоўнасць.

Сітуацыя карэнным чынам змянілася, калі ў 1992 г. было створанае АТ «Стары Менск». Гэтаму акцыянернаму таварыству Мінгарвыканкам перадаў найбольш каштоўную частку «Верхняга горада», у тым ліку і комплекс малога гасцінага двара. Кіраўніцтва «Старога Менска» адразу вырашыла адмовіцца ад ідэі захавання помніка. У 1993 г. дырэктар АТ Мікалай Вадап'янаў звярнуўся ў інстытут «Мінскметрапраект» з просьбай *«выполнить корректировку проекта производства работ по сносу комплекса зданий на площади Свободы 19, 21...»*. Гэтая дырэктарская задума знайшла падтрымку ў Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны міністэрства культуры РБ, асабліва ў яе старшыні Бубноўскага.

Паколькі заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны катэгарычна забараняе знос гісторыка-культурных каштоўнасцяў, дык кіраўніцтва ДзІнАС вырашыла склікаць навукова-метадычную раду. У пратаколе паседжання рады ад 16 сакавіка 1994 г. з'явіўся запіс: *«падтрымаць рашэнне аб разборцы і аднаўленні нанава будынкаў № 19, 21 на пл.Свабоды ў Мінску»*. Праўда, пад ціскам спецыялістаў, ад АТ «Стары Менск» было запатрабавана правесці падрабязнае даследаванне разбураемага помніка і яго фіксацыю пры ўмове *«...захавання некаторых элементаў аўтэнтычнасці і аднаўлення будынка на першапачатковы стан»*.

У сакавіку 1995 г. пачалася так званая «разборка» помніка. Знішчэнне помніка ў самым цэнтры гісторыка-культурнай запаведнай тэрыторыі Верхняга горада выклікала абурэнне грамадскасці і спецыялістаў. 13 красавіка 1995 г. пракуратура выдала генеральнаму дырэктару АТ «Стары Менск» М.Вадап'янаву *«Предписание о прекращении работ по сносу зданий № 19, 21 на пл. Свободы в г.Минске, являющихся историко-культурными ценностями Республики Беларусь»*. У ім, у прыватнасці, адзначалася, што Пракуратура РБ *«устанавіла выхадам на месца разбурэнне значнай часткі названай гістарычнай каштоўнасці з прымяненнем экскаватара, металічных каўшоў і «бабы» вагой у тры тоны»* і патрабавала спыніць работы па зносу комплексу будынкаў.

Пасля гэтага адбываліся нейкія нябачныя свету дзеянні, хадзіла пагалоска пра магчымае ўзбуджэнне пракуратурай крымінальнай справы супраць дырэктара АО «Стары Менск» Вадап'янава і старшыні ДзІнАС Бубноўскага, але пастанова на ўзбуджэнне была не зацверджаная. Больш за тое, прадпісанне аб забароне разбурэння помніка было адклікана пракуратурай са спасылкай на рашэнне навукова-метадычнай рады пры ДзІнАС і , што надта дзіўна, *«з улікам просьбы Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта...»* Якое дачыненне меў да гэтай справы мітрапаліт, застаецца толькі гадаць.

Разбурэнне помніка было працягнутае. Але ўдалося захаваць шэраг аўтэнтычных фрагментаў помніка (некаторыя падземныя памяшканні, перакрытыя мураванымі скляпеннямі, а таксама сцяну галоўнага фасада дома № 21, пабудаваную ў XVIII ст.) Яны былі замацаваныя і часткова закансерваваныя.

Авантура па «разборцы» помніка скончылася тым, што на доўгія гады яго тэрыторыя ператварылася ў сметнік, а рэшткі старажытных муроў сталі сімвалам адносінаў чыноўнікаў да аховы культурнай спадчыны беларускага народа.

Грамадскасць і, у першую чаргу, сябры таварыства аховы помнікаў пастаянна ўздымалі пытанне аб неабходнасці аднаўлення комплексу малога гасцінага двара ў Мінску. Спачатку ў сваіх адказах сп. Бубноўскі абяцаў, што ў бліжэйшы час АТ «Стары Менск» распачне аднаўленне помніка, потым, што вельмі хутка будуць скончаныя работы па кансервацыі старажытных муроў... Потым і такія абяцанкі скончыліся, бо з'явіліся вельмі ўплывовыя сілы, якія выступілі супраць аднаўлення і захавання гэтага аб'екта.

● Будынак малога гасцінага двара (справа ад царквы) да пачатку рэстаўрацыі

● Вынікі рэстаўрацыі помніка, скончанай ААТ «Стары Менск» 6 студзеня 2000 года

Прыкладам, на старонках газеты «Вечерний Минск» з'явіўся артыкул святара, які патрабаваў прыбраць руіны, што «асквярняюць» выгляд праваслаўнага кафедральнага сабора. Відаць, пра гэта марылі і больш ўладарныя таварышы.

Адразу пасля сустрэчы юбілейнага 2000 года, 3 студзеня, Бубноўскі накіраваў ліст у Мінгарвыканкам, паводле якога гарадскія ўлады прынялі рашэнне аб канчатковым знішчэнні помніка. У выканкамаўскіх паперах гэты ліст мае назву *«Об активизации работ по обновлению (так у арыгінале) комплекса домов 19, 21, 23 на пл.Свободы в Минске и необходимости завершения разборки законсервированных конструкций как первого самостоятельного этапа восстановительных работ...»*.

Уражвае маланкавая аператыўнасць, з якой Мінгарвыканкам адрэагаваў на ліст «об активизации». Ужо на наступны дзень (4 студзеня 2000 г.) Мінгарвыканкам выдаў Распараджэнне пад сімвалічным № 1. Гэты дакумент, безумоўна, увойдзе ў трагічную гісторыю знішчэння культурнай спадчыны нашага народа. Па езуіцкай вытанчанасці Распараджэнне не мае аналагаў.

Вось з яго караценькая цытата:

*«Рассмотрев письмо Комитета по охране историко-культурного наследия Министерства культуры Республики Беларусь об активизации работ по обновлению комплекса домов 19, 21, 23 на пл. Свободы и необходимости завершения разборки законсервированных конструкций.... Мингорисполком поручает,*

*1. МАРСП «Минскремстрой» завершить разборку законсервированной части домов с максимально возможным сохранением материалов...*

***3. Государственному предприятию «Институт Минскпроект» по заказу ОАО «Старый Менск» внести проектное предложение воссоздания фрагмента исторической застройки с установкой памятного знака на месте их расположения...***

***5. Расходы по выполнению работ по настоящему распоряжению оплатить за счет городского бюджета».***

Асабліва ўражвае, што памятны знак на месцы зруйнаванага аплацяць з падаткаў у бюджэт людзі, якія 10 гадоў выступалі супраць зруйнавання комплексу.

Помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння пачалі знішчаць ноччу 6 студзеня. Разбурэннем апошніх аўтэнтычных фрагментаў комплексу малога гасцінага двара асабіста кіраваў генеральны дырэктар АТ «Стары Менск» Мікалай Вадап'янаў...

Якой велічыні «фрагмент комплексу» адновіцца і які будзе памятны знак, магчыма, некалі даведаемся. Але, хутчэй за ўсё, там, дзе знаходзіўся помнік архітэктуры і гісторыі, будзе пакінута пляцоўка з надмагільнай стэлай. Дарэчы, такія прапановы ўжо абмяркоўваюцца. Відаць, чыноўнікі спадзяюцца, што з цягам часу пра існаванне комплексу малога гасцінага двара на пл.Свабоды людзі забудуцца. Няма помніка — няма і праблемаў. ■

### КАМЕНТАР нашай Свабоды

Зруйнаванне рэштак малога гасцінага двара на пл. Свабоды і шчыра кплівае Распараджэнне паставіць на ачышчаным ад помніка месцы памятны знак – відавочна, ёсць адказ уладаў на ліст творчай інтэлігенцыі да старшыні кабінета міністраў. Улады і чыноўнікі прадэманстравалі інтэлігенцыі сваё стаўленне да незапакоенных зваротаў. Па сутнасці, такі фінал быў запраграмаваны ў дакладной запісцы, якую падаў прэм'ер-міністру 26 кастрычніка 1999 г. ягоны намеснік Ул.Заматалін. Варта працытаваць некаторыя радкі гэтага ёмістага дакумента:

*«В связи с обращением представителей научной и творческой интеллигенции республики по поручению Совета Министров Республики Беларусь была создана компетентная комиссия...*

*В результате проведенной работы комиссия пришла к выводу, что информация, представленная в обращении интеллигенции, в основном, не соответствует действительности...*

*Реконструкция и восстановление комплекса домов № 19, 21, 23 на пл. Свободы в г. Минске приостановлены из-за неконструктивной позиции активистов общества охраны памятников и культуры при решении организационных вопросов реставрации, что привело к отказу инвестора от дальнейшего финансирования работ на названных объектах...*

*Ограничение в ночное время доступа во внутренний двор домов № 2, 2а, 4 по ул. Герцена в г. Минске оправдано с точки зрения обеспечения сохранности историко-культурной ценности, а также в связи с размещением в домах № 2, 2а дипломатических организаций и представительства Всемирного и Европейского банков...*

*Рекомендовать Минскому горисполкому... изыскать возможность возобновления работ по реставрации, реконструкции и восстановлению домов № 19, 21, 23 на пл. Свободы».*

Хочацца запытацца ў сп.Заматаліна: якім чынам аднаўленню помніка архітэктуры могуць перашкаджаць актывісты Таварыства аховы помнікаў, у якіх абсалютна няма ніякай улады. Яны, што, кідаліся пад гусеніцы экскаватара ці станавіліся сценкай перад 3-тоннай «бабай»? Ды калі б актывісты мелі хоць сотую долю тых магчымасцяў, якія мае Камітэт па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў, усе помнікі архітэктуры рэспублікі сёння заварожвалі б чалавечы зрок. І нашто сп. Заматаліну спасылацца на Сусветныя банкі і чэшскіх дыпламатаў, калі гаворка ідзе пра паркінг для легкавікоў, ціха збудаваны за фасадамі дамоў у забітым «рэстаўрацыяй» Верхнім горадзе. Няўжо сп. Заматалін сам верыць таму, што падпісваў у дакладной на імя свайго непасрэднага начальніка С.Лінга?

Зараз С.Лінга на высокай пасадзе змяніў старшыня Мінгарвыканкама Ярмошын. Толькі і застаецца памаліцца Богу аб літасці, бо калі сп. Ярмошын будзе распараджацца эканомікай рэспублікі такім чынам, як распараджаўся каштоўнасцямі Верхняга горада, дык у рэспубліцы будзе шмат памятных знакаў. ■

 

КНІГАРНЯ

# Асветленая павагай

Яўген ГУЧОК

Няўдзячная справа пераказваць змест цікавай, праўдзівай і займальнай кніжкі, але ж і не сказаць слова захаплення пра яе – няўдзячнасць недаравальная. Менавіта ў такім стане трымае мяне кніжка Кастуся Тарасава «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей». Яе не хочацца выпускаць з рук: яна – таленавітая ва ўсіх адносінах. І па падачы матэрыялу, і па мастацкім афармленні, і ўвогуле па канструяванні яе як энцыклапедычна-анталагічнай крыніцы ведаў пра беларускае жыццё ва ўсіх іпастасях (міфалогія бітвы, пакуты, любоў, зброя, побыт, та-




ямнічыя скарбы, архітэктура розных эпох, адзенне, вайсковая форма і г.д.). Кароткія, ёмістыя па змесце тэксты асвятляюць нашую даўніну і духоўныя здабыткі — ад каранеў мовы, узнікнення нашых першых гарадоў да абвяшчэння дзяржаўнасці ў 1918 годзе. Міжвольна ўзнікае жаданне параўноўваць такое выданне з яго інфармацыйнымі і сэнсавымі багаццямі са знаёмым, лепшым у гэтым кшталце, матэрыялам іншых аўтараў. Таму ўспамінаюцца, напрыклад, класічныя навукова-папулярныя «Усеагуль-



ная гісторыя для дзяцей» француза Эрнэста Лавіса, «Погляд на сусветную гісторыю» індуса Джавахарлала Нэру ці кнігі «Зямля пад белымі крыламі» нашага выдатнага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Трэба адразу ж заўважыць: гістарычны аповяд К.Тарасава з'яўляецца часткай еўрапейскага, калі не болей, гістарычнага кантэксту. І адначасова гэта аб'ектыўная кніга беларуса пра Беларусь і беларусаў. Вельмі шкадую, што ў маім дзяцінстве, калі так хацелася ведаць сапраўдную родную гісторыю, у мяне не было такога «падарожжа».

Пачынаючы з вокладкі і канчаючы апошняй старонкай кніжкі, пісьменнік у садружнасці з мастакамі вядзе чытача праз усю нашу мінуўшчыну, абуджаючы настальгічныя пачуцці любові, гонару, горычы, здзіўлення, павагі да асобаў, з'яваў і падзеяў як сівой, так і не зусім далёкай беларускай старасвеччыны. І тэкст, і ўсе малюнкі выдання (а яны ў лепшым сэнсе ў адносінах да тэксту канвергентна прысутнічаюць на кожнай старонцы – іх, разваротных, пастаронкавых, паласных і малога памеру, агульная колькасць набліжаецца да трохсот) маюць свой непаўторны, нязмушаны характар. Гэта значыць, што кніжка вылучаецца адсутнасцю штучных міфастваральных пачаткаў, таннага пафасу на прыўзнятай дыяфрагме, на катурнах; адсутнічаюць у ёй непатрэбныя суперсенса-



цыі, а пераважае павага да гісторыі і да чытача.

Як паказвае наша выдавецкая практыка, такія выданні надзвычайная рэдкасць, бо патрабуюць спалучыць намаганні мноства адораных людзей з добрым густам і выдаткаваць немалыя матэрыяльныя сродкі. «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей» – выданне рарытэтнага кшталту. Набытая ў 2000 годзе, яна будзе ў сямейнай бібліятэцы служыць і ўнукам, і праўнукам.

Лічу: хто набыў гэтую кніжку – у пэўным сэнсе шчаслівы чалавек, бо ён мае тое, што павінна быць у кожным беларускім доме, але не будзе – тыраж выдання падарункавы – 3 тысячы асобнікаў.

**Падрабязныя звесткі пра кнігу можна атрымаць у Таварыстве беларускай мовы, тэл.: 284-85-11, а таксама па тэл.: 234-13-37 (пасля 21.00).**

# «Хочу в тюрьму!»

Наталья РАДИНА



**Минск, 1-й переулок Окрестина, 36. В общежитии по этому адресу без острой необходимости стараются не заглядывать даже работающие там милиционеры - есть опасность заразиться туберкулезом. Здесь живут люди, которые провели в тюрьмах большую часть своей жизни, — особо опасные рецидивисты.**

Сегодня в общежитии при Центре адаптации ранее судимых лиц, на территории приемника-распределителя УВД Мингорисполкома, временно проживают 13 человек. В большинстве это старики, которые с трудом представляют свою жизнь вне тюрьмы и ее порядков. Кому за шестьдесят, ждут предоставления мест в доме престарелых. Двое бывших заключенных (у одного нет руки, у другого — ноги) пытаются попасть в дома инвалидов — пока безуспешно. Некоторым осталось несколько лет до получения социальной пенсии. Сегодня ее размер составляет 2.800 рублей (чуть более трех долларов).

Все 13 человек пришли сюда в тюремных телогрейках, не имея за душой ни гроша, ни прописки. Когда-то у них были семьи, квартиры, силы. Но семьи устали их ждать, а здоровье после многолетних мытарств по тюрьмам безвозвратно потеряно.

Из 59 прожитых лет Евгений Валентинович две трети – 40 лет – провел в тюрьме. «Садился» много раз, но всегда за одно и то же – за грабеж. Вернувшись с одиннадцатой «ходки», оказался на улице. После вынесения приговора к последнему сроку его автоматически выписали из квартиры. Мать, проживавшая там, умерла, и поскольку квартира принадлежала государству, то оно и забрало пустующую квартиру. Потрепанную цивильную куртку он выменял у соседа по бараку на 8 пачек «Астры». По выходу из тюрьмы Евгений Валентинович получил 400 рублей пособия. Садился он еще при Союзе и потому с интересом рассматривал незнакомые ему купюры, а чудовищные размеры инфляции не укладывались у него в голове. Перед лицом неизвестности на ум, по его словам, постоянно приходит фраза из уважаемого в лагерях фильма «Джентльмены удачи»: «А в тюрьме сейчас макароны дают...»

Условия, в которых живут бывшие заключенные, собственно, немногим отличаются от привычных им тюремных. Их «дом» с решетками на окнах стоит за высоким бетонным забором, над домом установлен постоянный надзор милиции. Вход в здание только до 22 часов и строго по пропускам. В любой момент, независимо от времени суток, могут устроить проверку. Кроме того, некоторые «проживающие» находятся под административным надзором, что, в сущности, подразумевает определенные ограничения свободы.

Административный надзор, как правило, применяется к людям, совершившим тяжкие преступления. Они по закону признаются особо опасными рецидивистами, и потому надзор превратился для бывших заключенных в продолжение наказания с той лишь разницей, что на «воле» функции надзора за ними осуществляются милицией. «Поднадзорным» запрещены уход из дома после семи вечера, посещения баров, ресторанов и тому подобное, выезд за пределы города, для них существует обязательная еженедельная регистрация в РОВД.

С 1 февраля бывшие «зэки» имеют хотя бы возможность раз в день пообедать в соседней столовой. Талоны на питание им выделил городской Красный Крест, он же время от времени подбрасывает кое-какую одежку. До этого все они кормились за счет собранных бутылок, макулатуры, металлолома. Сердобольные поварихи из столовой подкармливали остатками столовской пищи.

Тем, кто помоложе, на работу с пропиской на Окрестина, 36 устроиться, как правило, сложно. Работодатель к ранее судимым относится без доверия – ждет рецидива. Игорь, устраиваясь в ЖЭС электриком, скрыл, что ранее был судим. «Если они узнают, что я «сидел», меня же уволят... Работаю в постоянном страхе», — признается он. К высококвалифицированной работе даже при наличии образования бывших зэков не допускают. Зарплаты мизерные. В коллективе таких людей, как правило, сторонятся. Отпугивает и привычка говорить на «фене», и руки в сплошной татуировке.

23-летний Дмитрий вот уже месяц на свободе. Подыскивая себе работу, нашел объявление, что государственной организации требуются токари. Ему отказали, как только заглянули в паспорт. До этой же процедуры Дима им вполне подходил. И, конечно, не может быть и речи о том, чтобы человек с таким прошлым нашел работу в негосударственной организации. Потому в частной беседе Дмитрий признался, что, если государство не даст ему возможностей зарабатывать деньги на достойное существование, он вновь вернется в криминал. «А незаконных способов заработать деньги предостаточно. Начиная от валютных махинаций и заканчивая контрабандой...».

Конечно, неплохо, что у этих людей есть место, где они могут найти хотя бы временный приют и прописку. Там же им могут подыскать низкооплачиваемую работу. Но этого недостаточно для возврата бывших заключенных к жизни, не конфликтующей с законом. Прежде всего, освобожденный из мест лишения свободы нуждается в психологической адаптации к жизни вне тюрьмы. Привыкший жить по тюремным законам, имея на свободе клеймо «зэк», этот человек будет стремиться переступить черту законности и вернуться в камеру, где все ему знакомо и привычно, где не нужно заботиться о хлебе и терпеть неприязнь окружающих. Судьба этих людей драматична. Помочь им никто не может, они обречены до конца дней расплачиваться за свои ошибки. И снится им сегодня лишь тюрьма... ■

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Увесь «Мінск» спяваў «Народны альбом»

Ірына ТОЎСЦІК

Нарэшце, пасля працяглых гастроляў па замежжы, «Народны альбом» завітаў у Мінск. Хаця гэтаму праекту ўжо больш за год, але яго прэзентацыя на Беларусі адбылася толькі 26 лютага 2000 года ў канцэртнай зале «Мінск». Сярод гледачоў, якіх было больш за тысячу, раз-пораз мільгалі знаёмыя і незнаёмыя твары, апранутыя ў яркія швэдры з эмблемай «Маршу Свабоды - 2». Пад бурныя апладысменты і скандзіраванне «Жыве Беларусь» доўгачаканы выступ удзельнікаў «Народнага альбома» распачаўся песняй «Пад прыгнётам панскім» у выкананні салісткі гурта «Новае неба» Касі Камоцкай. Песні «Народнага альбома» звязаныя паміж сабой прасторава і часам дзеяння ў адну суцэльную гісторыю. Час дзеяння з 1919 года да прыходу фашысцкіх акупантаў у Заходнюю Беларусь. Тут усё – і прыход на Беларусь савецкіх войскаў, і барацьба з імі, і просты побыт заходнебеларускіх сялян ды гараджан. Вядучы Міхал Анемпадыстаў стараўся спалучыць кампазіцыі даволі сцісла, каб не таміць гледачоў лішнімі словамі, бо ў песнях і так усё распавядалася вельмі зразумела. Калі Лявон Вольскі, Аляксандр Памідораў і іншыя з запалам спявалі патрыятычныя песні, песні пра піва ды каханне, уседзець на месцы было цяжка. Сапраўды, пад такую музыку «адцягвацца» лепей танцуючы, што многія і рабілі, стоячы ў праходах.

Акцыя проста азарыла вечар сваёй урачыстасцю і якасцю выканання,чаго апошнім часам бракавала ў выступленнях беларускіх рок-гуртоў. Актыўны ўдзел у канцэрце прымалі не толькі спевакі, але і іх фанаты, якія былі поўныя энергіі і прагі нарэшце «адарвацца». Слухачы амаль пасля кожнай кампазіцыі выказвалі сваё задавальненне дружным выкрыкам «Жыве Беларусь» і апладысментамі. Прысутныя там міліцыянты стараліся не перашкаджаць, але чамусьці зганялі тых, хто садзіўся ў праходах. Каму ж удавалася прарвацца бліжэй да сцэны, таксама адпраўляліся ахоўнікамі правапарадку на месцы.

Поўная канцэртная зала «Мінск» стоячы «прымала» апошнюю песню «Простыя рэчы» з прэзентаванага «Народнага альбома». Аднак канцэрт на гэтым скончаны не быў. У дадатак да ўсяго прагучаў новы музычны сінгл на французскай мове ў супольным выкананні спевакоў, і ўсе былі запрошаныя на сольны канцэрт «NRM», які мусіць адбыцца 8 сакавіка ў клубе «Альтэрнатыва» (былая «Рэзервацыя»).

Часцей бы ў Мінску адбываліся такія, без перабольшвання, святы, ад якіх атрымоўваеш добры зарад бадзёрасці і жыццёвага аптымізму. Глядзіш, і ўсё навокал здавалася б не такім шэрым і безвыходным! ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1750 Нумар падпісаны ў друк 29/02/2000 (15:00) Наклад – 20.000